№ 32 (614)
Аўторак, 23 лютага 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас











## Дэмакратычныя сілы Беларусі зрабілі яшчэ адзін крок да аб'яднання

### Утворана Кансультацыйна-каардынацыйная рада (ККР) дэмакратычных сіл Беларусі

Першапачаткова стварыць ККР меркавалася яшчэ падчас Кангрэсу дэмакратычных сіл, што праходзіў у Мінску напрыканцы студзеня. Аднак тады ажыццявіць гэтую акцыю не ўдалося і форум прыняў спецыяльную рэзалюцыю "Пра кансалідацыю дэмакратычных сіл". Асноўным арганізатарам Кангрэсу ставілася задача — завяршыць працу па стварэнні ККР.

Перамовы па гэтай праблеме пачаліся ўжо праз дзень пасля завяршэння форуму. Спатрэбілася два з паловай тыдні, каб давесці задуманае да лагічнага заканчэння. 19 лютага асноўныя арганізатары кангрэса прынялі Палажэнне аб Кансультацыйна-каардынацыйнай радзе дэмакратычных сіл Беларусі.

Палажэнне ўключае ў сябе пяць раздзелаў. Першы — мэта стварэння. Гэта — кансалідацыя дэмакратычных сіл, правядзенне кансультацый і выпрацоўка агульных рашэнняў па накірунках палітычнага і грамадскага жыцця краіны, каардынацыя сумесных дзеянняў, выкананне рашэнняў і рэзалюцый, што былі прынятыя на кангрэсе.

Больш за ўсё спрэчак падчас папярэдняй працы выклікаў другі раздзел "Склад рады". Тут найбольш гарачая дыскусія вялася вакол таго, колькі мандатаў атрымаюць так званыя заснавальнікі і асноўныя арганізатары. Спыніліся на лічбе 7. Такім чынам у першапачатковы склад ККР увайшлі: Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Незалежныя прафсаюзы і Рабочы рух, Асамблея беларускіх дэмакратычных няўрадавых арганізацый, грамадзянская ініцыятыва Хартыя'97, а таксама старшыня аргкамітэту кангрэсу. Апошні ўваходзіць у склад рады да правядзення чарговага кангрэса.

Склад рады можа быць пашыраны па прапанове партый і грамадскіх арганізацый. Тыя прадстаўнікі дэмакратычных арганізацый, што не трапілі ў так званую "вялікую сямёрку", могуць удзельнічаць у пасяджэннях ККР у якасці назіральнікаў з правам дарадчага голасу. Дарэчы, такія пасяджэнні плануецца праводзіць не радзей, чым адзін раз на месяц. Формула прыняцця рашэнняў выглядае так — кансэнсус мінус адзін. Тры партыі, якія ўвайшлі ў першапачатковы склад ККР, валодаюць правам вета.

Старшыня ККР не абіраецца, вядзе пасяджэнне кожны сябра рады па чарзе.

Як паведаміў Генадзь Карпенка, які старшынстваваў на пасяджэнні па стварэнні ККР, прадстаўнікі Беларускага народнага фронту, якія ў прынцыпе пагадзіліся з Палажэннем і актыўна распрацоўвалі гэты дакумент, заявілі, што яны гатовы далучыцца да ККР пазней. І хаця такое рашэнне выклікала пэўны сум у іншых удзельнікаў рады, тым не менш, па словах старшыні БСДП (Народная Грамада) Міколы Статкевіча, "сёння нам удалося выйсці на больш высокую ступень кансалідацыі".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Інфармацыйны абмен з замежжам

Віцебская філія Аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына" наладзіла інфармацыйны абмен з беларусамі замежжа. Пры тэхнічным садзейнічанні рэгіянальнага рэсурснага цэнтра маладзёжных няўрадавых арганізацый "Згода" і яго інфармацыйнага агенцтва "Контур-INFO" — першы блок паведамленняў пра жыццё Віцебшчыны адпраўлены 18 лютага ў цэнтры беларускай дыяспары Аўстраліі, Беласточчыны, Вялікабрытаніі, Ватыкана, Канады, Расіі, ЗША і Украіны. Ужо 19 лютага на адрас віцебскай філіі "Бацькаўшчыны" пачалі ісці паведамленні ў адказ з-за мяжы.

**Леў КАМЕНСКІ.**

## Асартымент лекавых прэпаратаў у аптэках Гомельскай вобласці можа істотна скараціцца

Як адзначаюць спецыялісты ўпраўлення аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама, прычына такой сітуацыі — у цяжкім фінансавым становішчы вытворчага аб'яднання "Фармацыя", якое забяспечвае вобласць медыкаментамі. У сувязі з запазычанасцю партнёры, асабліва замежныя, адмаўляюцца адпускаць "Фармацыі" прэпараты без перадаплаты.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**



Пр. Валянціны, Ганны, Паўла, Парфірыя, Прохара.
К. Дамяна, Палікарпа, Рамана.

ДЗЕНЬ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ І УЗБРОЕНЫХ СІЛ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ЛЮТЫ
**23**
'99 АЎТОРАК

Усход 7.13
Захад 17.35
Даўж. дня 10.22

Перш. квадра 4.43
Захад 3.01
Усход 11.51









**Стоп-кадр**



## Брэстчына пачала "выходзіць" з эпідэміі грыпу

Аб гэтым заявіла карэспандэнту БелТА загадчыца эпідэміялагічнага аддзела абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ала Корзан.

Першы з кантрольных гарадоў, дзе парогавы ўзровень захворвання цяпер ніжэйшы за эпідэміялагічны, — Баранавічы. Такая ж тэндэнцыя назіраецца і ў Пінску. У гэтых гарадах адмяняецца каранцін у школах. Што датычыць Брэста, то, паводле слоў Алы Корзан, і тут эпідэміялагічныя ўзроўні знізіліся. Пачаліся заняткі ва ўсіх брэсцкіх школах.

Усяго на грып у Брэсце за гэтыя тыдні перахварэла 28 тысяч чалавек, у Пінску і Баранавічах — прыкладна па 9,5 тысяч. У некалькіх выпадках грып даў няпростыя ўскладненні.

**Іван КУКСА.**

## Падарунак ад "Форд Юніён"

У Цэнтры дзіцячай хірургіі 1-й клінічнай бальніцы Мінска адбылася цырымонія перадачы кіраўніцтвам аўтамабільнага завода "Форд Юніён" медыцынскага абсталявання на суму 12 тысяч нямецкіх марак, прызначанага кафедры дзіцячай анестэзіялогіі Беларускага інстытута ўдасканальвання ўрачоў. Абсталяванне было закуплена на сродкі, якія сабралі супрацоўнікі заводаў "Форд Германія" для беларускіх дзяцей. У цырымоніі бралі ўдзел генеральны дырэктар аўтамабільнага завода "Форд Юніён" Ніл Кэмпбел, фінансавы дырэктар Ёахім Фогт, кіраўнікі Беларускага інстытута ўдасканальвання ўрачоў і 1-й клінічнай бальніцы Мінска. Як адзначыў на прэс-канферэнцыі загадчык кафедрай дзіцячай анестэзіялогіі Віктар Курэк, перададзенае кіраўнікамі завода "Форд Юніён" найноўшае эндаскапічнае абсталяванне вядомай фірмы Карл Шторц — гэта першы такі апарат на Беларусі і нават нямногія рэгіёны ў Расіі могуць пахваліцца яго наяўнасцю. Наяўнасць у клініцы падобнага абсталявання дазволіць выкарыстоўваць сучасныя тэхналогіі ў лячэбна-дыягнастычнай працы і практыцы дзіцячай аховы здароўя, а таксама ўдасканальваць працэс абучэння медыцынскага персаналу. Выкарыстанне фібраоптыкі дапаможа абследаваць дыхальныя шляхі, скараціць тэрміны знаходжання дзіцяці ў стацыянары і зменшыць стрэс пры лячэнні, што ў канчатковым выніку будзе садзейнічаць хутчэйшаму выздараўленню дзяцей. Варта адзначыць, што, распачаўшы сваю дзейнасць на Беларусі, кампанія "Форд" засталася вернай сваім традыцыям і выбрала адну арганізацыю для пастаяннай падтрымкі і аказання матэрыяльнай дапамогі — Цэнтр дзіцячай хірургіі 1-й клінічнай бальніцы Мінска.

**Аляксей АРЭШКА.**

**Фестывалі**

## У джаза — мінская прапіска

Міжнародны фестываль джаза шосты раз будзе праходзіць у Мінску з 26 па 28 лютага. Ні эпідэмія грыпу, ні эканамічныя цяжкасці не сталі перашкодай для адданых "музыцы душы" беларускіх, літоўскіх, малдаўскіх і ўкраінскіх музыкантаў. Месца сустрэчы з джазам традыцыйнае — лепшая па акустыцы зала сталіцы ў Клубе імя Ф.Дзяржынскага. Але на гэты раз трапіць на канцэрты можна бясплатна, па спецыяльных запрашальных білетах, разлічваць на якія могуць усе паклоннікі жанру.

Каменціруючы гэту падзею, яе "хросны бацька", мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь народны артыст Міхаіл Фінберг адзначыў, што бюджэт фестывалю, які праходзіць пад патранажам Мінкульта і Мінгарвыканкама, вельмі невялікі. Але музыканты яго калектыву наогул адмовіліся ад ганарараў, а госці згодны і на вельмі сімвалічную плату. Маэстра лічыць, што кіруе імі не проста любоў да джаза, а жаданне захаваць і развіваць жывую музыку ў эпоху наступлення музыкі камп'ютэрнай. Беларускаму Біг-Бэнду, якім кіруе сам прафесар Фінберг, такі агляд дапамагае расці творча. Спецыяльна да фестывалю падрыхтавана вялікая праграма з твораў класікаў джаза, прычым па арыгінальных партытурах. Гэтыя работа і творчасць маладых беларускіх калектываў запоўняць першы фестывальны вечар.

Джаз Украіны на наступным музычным нон-стопе прадставіць "Крымскае трыо Энвера Ізмайлава", Малдовы — арт джаз-фолк трыо "Трыгон", Літвы — вядомы Каўнас Біг-Бэнд. Чакаецца і сустрэча з фартэпіянным джазам, з выдатным айчынным салістам Аркадзем Эскіным.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

**Культура**

## "Маладзечанская сакавіца"

Першы месяц вясны зноў падорыць беларускім тэатрам надзею на прызнанне іх творчых заслуг. Своеасаблівай "справаздачай" за зробленае ў мінулым годзе для многіх з іх па традыцыі стане Рэспубліканскі тэатральны фестываль "Маладзечанская сакавіца". Яго мяркуюць правесці з 18 па 21 сакавіка ўжо шосты раз.

Назва гэтага тэатральнага форуму другі год запар будзе не зусім адпавядаць геаграфіі яго правядзення. Яна зноў пашырыцца і на Вілейку. Аднак арганізатары "Маладзечанскай сакавіцы" — Міністэрства культуры Беларусі, Мінскі аблвыканкам і Маладзечанскі гарвыканкам, зразумела, не бачаць у гэтым нічога дрэннага. Мінулагодні "геаграфічны" эксперымент спадабаўся ўсім.

У Вілейцы, дарэчы, і пачнецца фестываль. Яго праграму адкрые Дзяржаўны акадэмічны рускі драматычны тэатр імя Максіма Горкага, які выступіць са спектаклем па п'есе Алены Паповай "Улюбёнцы лёсу". Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа прадставіць тут сваю пастаноўку па п'есе Георгія Марчука "Варвара", а Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы — "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча".

Для маладзечанскіх гледачоў "сакавіца" падыме сваю заслону 19 сакавіка. Першымі на сцэну Мінскага абласнога драматычнага тэатра выйдуць акцёры Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, якія сыграюць у "Апошняй пастаралі". Гэта пастаноўка па матывах аднайменнай аповесці Алеся Адамовіча, дарэчы, была прызнана лепшай на Першым фестывалі нацыянальнай драматургіі ў лістападзе мінулага года. У фестывальнай афішы ёсць таксама спектакль Мінскага драматычнага тэатра "Дзе — Я?", які прадставіць "Мёртвыя душы" па Гогалю. Гомельскі абласны драматычны тэатр выступіць з пастаноўкай "Дзень нараджэння Чэлентана" па п'есе Славаміра Мрожака. Тыя ж спектаклі, што і ў Вілейцы, пакажуць у Маладзечна Купалаўскі і Коласаўскі тэатры. Завершаць фестывальную праграму гаспадары сцэны. Яны выставяць на суд журы і гледачоў сваю пастаноўку "Пры зачыненых дзвярах", створаную па п'есе Жана-Поля Сартра.

**Аксана ПІВАВАР.**



## Беларускае адзенне ўсёй Еўропе да твару

З Лейпцыгскай міжнароднай выстаўкі "Мода і Кантрактынг" вярнуліся прадстаўнікі васьмі беларускіх прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці. Калектыўным арганізатарам іх удзелу ў паказе была Беларуская гандлёва-прамысловая палата.

— Пяты раз ужо мы прадстаўляем сваю калекцыю ў Лейпцыгу, — сказаў карэспандэнту БелТА начальнік аддзела выставак БелГПП Юрый Ласіцкі. — Дзякуючы садзейнічанню нямецкага таварыства па тэхнічным супрацоўніцтве "Протрэйд" і фінансавай падтрымцы Міністэрства эканомікі Германіі, 50 метраў экспазіцыйнай плошчы прадастаўляецца нашай рэспубліцы бясплатна. І хоць яшчэ рана гаварыць аб канчатковых выніках выстаўкі, ужо цяпер ясна, што да вырабаў беларусаў была праяўлена большая цікавасць, чым, скажам, да прадукцыі ўкраінскіх або расійскіх швейнікаў. Мы гэта звязваем з паляпшэннем якасці калекцыі і лічым, што менавіта гэта акалічнасць дае магчымасць спадзявацца на новыя кантракты замежных партнёраў з беларускімі фірмамі.

Юрый Ласіцкі расказаў, што больш за ўсё наведвальнікаў збірала экспазіцыя АТ "Палессе" з Пінска. І, як вынік, ужо атрыманы ад будучых заказчыкаў узоры на выраб тавараў. Зацікавіла нямецкіх прадпрымальнікаў і прадукцыя жодзінскага АТ "Світанак" — шырокі асартымент бялізны для дзяцей і дарослых, а таксама велюравыя касцюмы. Модныя вырабы высокай якасці прадставіла і Мінская трыкатажная фабрыка "Арэола". У час выстаўкі яе прадстаўнікі правялі перагаворы з нямецкім бокам аб закупцы вялікіх партый пражы і гатовых палотнаў.

**Анжэла САБАНАЕВА.**

## БХК выказвае пратэст супраць спроб беларускіх улад "кантраляваць незалежныя крыніцы інфармацыі"

Беларускі Хельсінкскі камітэт выступіў з заявай, у якой выказвае "рашучы пратэст супраць спроб дзяржавы кантраляваць незалежныя крыніцы інфармацыі шляхам вынясення незаконных папярэджанняў". У якасці прыкладу ціску ўлад на СМІ ў заяве прыводзіцца шырока вядомы факт — папярэджанне, якое Дзяржкамітэт па друку вынес у адрас шэрагу незалежных выданняў, абвінаваціўшы іх у "закліку да захопу ўлады" за друкаванне інфармацыі, датычнай маючых адбыцца выбараў прэзідэнта. Падобныя папярэджанні, адзначаецца ў заяве БХК, "могуць пацягнуць за сабою закрыццё газет, фактычнае знішчэнне інстытута незалежнай прэсы на Беларусі".

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## Пастаўкі расійскай нафты скараціліся на 9 працэнтаў

Асноўнай прычынай скарачэння аб'ёмаў паставак сыравіны на Беларусь расійскімі нафтавымі кампаніямі, як лічаць незалежныя эксперты, з'яўляецца не толькі запазычанасць за раней пастаўленую нафту, але і палітыка кіраўніцтва нафтавых кампаній. Як вядома, "ЛУКойл" — адзін з асноўных пастаўшчыкоў нафты на Наваполацкі НПЗ — на працягу апошніх двух гадоў пастаянна прапаноўвае акцыяніраваць ВА "Нафтан". Аднак беларускі ўрад усё яшчэ працягвае вывучаць дадзенае пытанне.

**Яўген ГРУБІЧ.**

## Адмоўнае сальда

Паводле папярэдніх афіцыйных даных, аб'ём знешнегандлёвых аперацый Беларусі з Украінай у 1998 годзе (у параўнанні з 1997-м) скараціўся на 17,5 працэнта. Прычым экспарт тавараў і паслуг скараціўся на 8,5 працэнта, імпарт — на 21,4 працэнта. Адмоўнае сальда склалася на ўзроўні 385,4 млн. долараў ЗША.

**Ягор ЗВОННІКАЎ.**

**Письма из глубинки**

## Уже и мышам худо в закромах...

То и дело слышишь от наших чиновников всех рангов: не допустим снижения, обнищания, падения, развала, роста цен и инфляции. А все это вопреки "штабам стабилизации" падает, ухудшается, разваливается. Как и следовало ожидать, рынок обнаружил слабое место правительства — расхождение слов и дела — и тут же "девятым валом" накрыл всю эту трескотню...

Создается впечатление: верхи не знают, сколько сегодня стоят килограмм мяса и колбасы, подсолнечное масло и рыба, зубная паста и сигареты наконец. Глаза на лоб лезут, язык деревенеет, голова отказывается понимать!

Не нынешним штабам, а руководству снизу доверху надо было работать летом, а не рыбачить, загорать под южным солнцем! Забыли, что пословица "Летний день год кормит" относится не только к крестьянам, но и к правительству, "вертикали"? Что толку с тех битв за урожай, всеобщей мобилизации на уборку хлеба и картофеля, когда в закромах Родины мыши уже чувствуют себя, как в церкви?

На многих животноводческих фермах уже нет кормов. А вспомните, как летом по радио, телевидению, в президентских газетах звучали ура-рапорты о перевыполнении по кормовым единицам планов заготовки кормов. Оно тогда и вправду верилось. Что-что, а трава была по пояс! Не было нужды косить неудобицы, заготавливать березовые ветки, хвойную лапку. Все шло так гладко, что некоторые хозяйства даже забыли о втором укосе. Скажете, что трудно было, погода стояла плохая? Да, год был не лучшим. Но откуда корма взялись у колхозников? Вы заметили, что у них, погода или непогода, а для своего скота кормов достаточно. Подчеркиваю: всегда!

Оно и всегда так бывает, когда один в государстве "работает": сеет, пашет, косит, убирает, сажает... И командует.

Уму не понять, когда табак у нас растет, как лес, а сигареты закупаем за границей.

Сахарная свекла растет не только в южных районах Беларуси, но и в северных регионах, в Прибалтике, а у нас днем с огнем не найдешь сахара.

Что ж у нас за страна такая, когда при трудолюбивом народе и плодородных землях мы разводим не лучшие породы скота, а какие-то штабы по стабилизации; не повышаем хотя бы до половины западного урожай полей, а занимаемся произнесением демагогических речей; трудимся не над обеспечением народа продуктами питания, а плодим документы по воссоединению Беларуси и России в единое государство; не с бесхозяйственностью ведем борьбу, а с оппозицией, послами зарубежных государств; не строим дома для бездомных людей, а возводим теннисные корты, футбольные поля, олимпийские комплексы...

Почему мы, имея столько научно-исследовательских институтов, опытных станций, полей и ферм для внедрения передовых технологий, не имеем в достатке мяса, молока, масла, яиц?

Почему мы не делаем того, что могло бы послужить толчком к подъему экономики и жизненного уровня людей?

Почему у нас зарплата до сих пор не стала двигателем прогресса?

Почему мы не хотим заинтересовать людей конечным результатом их труда, ума, сообразительности и предприимчивости?

Что мешает сделать так, чтобы люди почувствовали себя свободными хозяевами земли, производств, собственного дела?

Чего не хватает для этого: ума, смелости, умения, политической воли?

Что мешает: зашоренность, идеология, партийность, раболепие перед начальством, большевистская игра мышц и отсутствие серого вещества?

Прихожу к выводу: у нас, как в том доме для слабоумных, вместо дела — миражи, "мультики". Бесконечные словопрения, властные амбиции, заседательская суета, командно-административные меры и методы... Все это взято за основу прогрессивного движения вперед по пути построения первого в мире государства рыночного социализма.

Боже, спаси и сохрани нас от этого!

**Иван СКОВОРОДКИН, ветеран труда.**
*г.Рогачев.*

## А дзе ж тыя прыбаўкі?

Пра іх увесь час гаворыць наша кіраўніцтва. Паслухаць — дык мы з кожным днём у эканоміцы расцём, прыбаўляем, дужэем. А дзе ж тыя прыбаўкі, той рост? Толькі на словах і на паперы. Бо калі пенсія падвышаецца на 10 працэнтаў, дык цэны — на 50! Колькі ні друкуй пустых грашовых паперак, на іх усё роўна просты чалавек можа купіць усё менш і менш. Хутка будзе, як пры Керэнскім, калі за карабок запалак плацілі мільён...

Канёк нашага прэзідэнта — хутчэйшае яднанне з Расіяй. Дык мы і так з ёй ужо не адзін год яднаемся, а жывём усё горш і горш. Што ж далей будзе?

Каб мы, беларусы, былі разумнейшыя, то маглі б жыць зараз не горш, чым у Літве ці Эстоніі, дзе нашы суседзі сталі гаспадарамі ў сваіх дзяржавах і дамагліся відавочных поспехаў. Мы ж не менш працавітыя, старанныя. А вось паслухалі прыгожых абяцанкаў і, не ўзважыўшы ўсё як след, пайшлі не туды, куды трэба. Вось і маем 8—12 долараў пенсіі, зароблenай дзесяткамі год нялёгкай працы, у той час, калі рабочы ў "эксплуататара-капіталіста" столькі зарабляе за адну гадзіну.

Давайце больш не памыляцца ў сваім выбары, дарагія землякі, тады і дабрабыт будзе не за гарамі.

**Рыгор САЗОНАЎ, жыхар г.Мазыра.**

## Угасает в людях вера

У меня один сын служит в армии, другой женился, взял кредит и встал на очередь на покупку дома. Все документы оформили. Райисполком утвердил. И на этом всякое движение прекратилось. Обращаемся в райисполком — говорят: звоните в облисполком, оттуда опять отсылают в очередной "рай". Да еще упрекают, что дом у нас 46 квадратных метров. На этих 46 $м^2$ живут 6 человек, сени, извините, тоже в эти метры входят. Дом — это громко сказано, просто хижина. Теперь платим 4 процента с суммы за кредит, а зарплаты, сами знаете, какие. Вроде все разрешено, и в том же время ничего нельзя — такая вот жизнь! Как хочется мне поехать к президенту и столько ему рассказать, должен же он хоть раз выслушать несчастного селянина! А то он от простой жизни оторвался и, похоже, не знает, как мы живем. Как умирают деревни, угасает в людях вера...

**Виктор АБРАМОВИЧ.**
*д.Заостровечье Клецкого района.*

## Скажите этому Союзу нет!

Здравствуйте, уважаемая редакция газеты "Народная воля"!

Низкий поклон вам из полесской глубинки, всем людям, несущим правду о нашем житье-бытье в самые отдаленные уголки Беларуси.

Я уже не первый раз пишу в газету. Сегодня хочется высказать свое мнение — точку зрения человека, не искушенного в политике, по поводу одной из наболевших тем — союза Беларуси с Россией.

Какой союз? Кому он нужен? Зачем?

Вопросы, вопросы... Но есть и ответы.

Скажите, Союз нужен, чтобы на Беларуси начать строительство атомных станций по указу той же Москвы?

Для того, чтобы белорусские леса опять наводнить точками с ракетным оружием для защиты Москвы?

Не надо, чтобы наших ребят привозили в металлических ящиках из "горячих точек".

Отцы и матери, встаньте на защиту своих детей! Замолвите слово разума, сердца, рассудка. Скажите такому союзу — нет!

Беларусь должна быть нейтральной страной — без оружия, без атома.

Беларусь никогда никому не угрожала.

В наших лесах должны расти грибы и ягоды, петь птицы.

Пользуясь тем, что пишу в газету и, может быть, будет напечатана эта заметка, хочу высказать свое отношение к некоторым политикам. С глубоким уважением отношусь к семье Юлии и Михаила Чигирей за их трудолюбивые руки, милосердные сердца, профессионализм. Это мужественные люди.

С таким же уважением отношусь к Г.Карпенко, С.Шушкевичу, З.Позняку.

Как видите, мне будет очень тяжело определяться на президентских выборах, кому отдать предпочтение.

**Анна ВАКУЛЬЧИК, пенсионерка.**
*г.Кобрин.*

**Милосердие**

## Помощь тяжело и безнадежно больным детям

В человеческой жизни случается и так, что даже последняя надежда иногда тоже умирает. Безнадежно больной ребенок — это забота родителей, невероятное напряжение всех душевных и физических сил и поиск. Поиск психологической поддержки и сочувствия извне. Такой поддержкой для родителей безнадежно больных детей стал Белорусский детский хоспис", функционирующий при содействии "Зонтичного проекта" Программы развития ООН в рамках мини-проекта "Хоспис", утвержденный Представительством ООН в Республике Беларусь и Министерством экономики Республики Беларусь, по-прежнему остается единственной в стране организацией, оказывающей помощь на дому тяжело и безнадежно больным детям 24 часа в сутки 7 дней в неделю.

В прошлом году были значительно расширены виды оказываемой медицинской помощи и количество программ. Устраивались дежурства в вечернее и ночное время, в праздничные дни. В течение 1998 года Белорусским детским хосписом в рамках медицинской программы были оказаны различные виды помощи 73 безнадежно больным детям, в том числе с онкологическими заболеваниями. Различные виды поддержки 75 семьям, чьи дети умерли, а также 14 близким родственникам умерших детей была оказана психологическая помощь.

Все это послужило для практического признания эффективности деятельности Белорусского детского хосписа со стороны государства, и с 1 октября 1998 года решением Минского горисполкома Хоспису в безвозмездное пользование сроком на 5 лет переданы помещения по адресу: г. Минск, пр-кт Рокоссовского, д. 63, кв. 2.

Теперь, позвонив по тел. **(017) 238-85-31**, вы сможете получить срочную помощь медицинского персонала Хосписа, который выезжает к пациентам в любое время как в Минске, так и (в экстренных случаях) в 200-километровой зоне от него.

**Инф. Представительства ООН в Республике Беларусь.**

МАЙ
**16**
ВОСКРЕСЕНЬЕ

ВЫБОР БЕЛАРУСИ ЗАВИСИТ ОТ ВАШЕГО ВЫБОРА

# "НЕ ЛЮБЛЮ СВОИ ФОТОГРАФИИ ТЕХ ВРЕМЕН..."



*Он вышел из тюрьмы пять лет назад. Достаточно известный человек не только в нашей республике, но и далеко за рубежом. Я долго склоняла его к откровенному разговору. Он думал почти целый год. Потом вдруг согласился...*

## Из воспоминаний

...Голодал. Хотя на самом деле не понимал, кому и что пытаюсь доказать. Голодал 15 дней. В день заставлял себя выпить только стакан кипяченой воды. Эта глупость едва не свела меня в могилу...

...Те, кто долгое время сидел в одиночных камерах, разговаривали с мышками или паучком. Или с теми, кто приходил к ним в воображении. Таким образом спасались от психического срыва.

...Еще на предварительном следствии начинаешь понимать, что ты — ***"оно"***. Не женщина, не мужчина, не человек, а ***"оно"***. Ты сюда попал случайно, еще не доказали твою вину, а к тебе уже относятся как к преступнику, вернее, как к последней скотине. Многие, идя на то или иное преступление, просто не понимают и не представляют, что их ждет ***"оно"***...

...Проблематично было держать себя в форме. Самодельную штангу забирали, отжимания и упражнения для пресса не приветствовались. Если и удавалось позаниматься как-то тайком, потом обязательно возникали проблемы с личной гигиеной. Душ полагается раз в десять дней, а греть воду запрещалось. Мыться холодной водой тоже возможности не было...

...По выходу оттуда начал понимать, что такое зеленая листва весной. Яркий свет солнца, дождь. Вкусная еда. Свежий воздух. Женщины, просто женщины...

...После отсидки невольно оттачиваешь каждый свой жест, слово, движение. Живешь, как когда-то жил в Германии Штирлиц...

...Не люблю свои фотографии тех времен. Они бередят душу. Злюсь, когда кто-то случайно или намеренно мне их показывает...

## Еда и любовь как самое дорогое

— У меня был гастрит и я не мог есть то, что предлагалось всем. Когда не было нормальной еды, старался вообще ничего не есть. За это, естественно, жестоко наказывали — лишали самого дорогого: писем и передач. Кстати, последние полагались раз в полгода. По восемь килограммов. За год всего разрешалось получить 16 килограммов продовольствия, куда входят и сало, и конфеты, и фрукты. Иногда за примерное поведение перепадают дополнительные пайки, раз в месяц — отоваривание в ларьке. Никого не волнует, что на какой-то продукт у тебя аллергия: ты обязан есть вместе со всеми.

С женщинами дело вообще обстоит никак: допускают только родственников. Женатым раз в полгода могут дать комнату и длительное свидание. Остальные крутятся, как могут. Кто занимается онанизмом, кто за сигареты, вещи, деньги, еду покупает услуги мужчин-геев.

Хотя, если есть связи, таких проблем не возникает вообще. Все решаемо... И девочек своевременно подвозят, и еду, и сигареты...

## Третий институт

— Тюрьма — это третий институт. Мини-государство со своими законами.

Для некоторых здесь настоящий рай. На свободе они беспробудно пили, ужасно питались, а здесь они, как в санатории, поправляют свое здоровье. К тому же тут иногда можно смотреть телевизор или читать газеты. И если я, сидя на нарах, считал нудные секунды, часы и дни своего пребывания здесь, то для них время летело совершенно незаметно.

Степень осознания того, что ты находишься за решеткой, напрямую зависит от интеллекта человека. Чем выше интеллект, тем сложнее переносится отсидка и связанные с ней последствия. Однако многие, совершая преступление, не понимают, на что идут. Надеются, что пролетят или как-то обойдется. Лично я — за профессионализм во всем. Если ты вор, значит, должен быть асом в своем деле. И не допускать даже мелких ошибок. Всегда найдется завистливый человек, который, как стервятник, ждет от тебя любой оплошности...

Здесь человек ощущает себя голым во всех отношениях. Неправильный взгляд, поза, поступок, слово — все может обернуться против тебя. Неважно, что ты просто находился в камере, где совершалось избиение за мелкую зацепку, за просто так. Тебе придется ответить за то, что ты там присутствовал. Потому что ты обязан был заступиться. Если тебя избили вместе с ним — это другое дело, но если ты лох и сделал вид, будто бы заснул, значит, ты такой же, такой же подонок...

Когда-то герой фильма "Калина красная" сказал, что если бы у него было три жизни, то одну из них он непременно просидел бы в тюрьме. Я с этим категорически не согласен. Даже призрачную иллюзорность свободы, которая существует в нашей стране, я бы ни в коем случае не променял на четыре обшарпанные стенки тюремной камеры.

Наша система тюремного воспитания направлена на полнейшее уничтожение, растление человека, хотя, по идее, должна быть сориентирована на его искреннее раскаяние. Она не ставит человека на ноги, а заставляет его ползать на полусогнутых. Если надо с песней и речевкой строго идти строем по плацу в столовую, значит, пой. Иначе будет худо...

Тут не действует Конституция или Уголовный кодекс. Здесь действуют древние человеческие законы. Закон сильных умом и телом. Но если ты в любой системе, при любом руководстве, при любых обстоятельствах будешь Человеком, рядом всегда найдутся люди, которые будут уважать тебя и относиться к тебе по-человечески.

Испытав все на собственной шкуре, я, наверное, смог бы реформировать нынешнюю тюремную систему. Наши судьи не понимают, на что обрекают людей. Человек украл, а ему дают пять лет. Но на такие сроки нельзя садить людей: после трех лет отсидки человек деградирует. Нужно создать такие условия содержания, чтобы человек каким-то образом привлекался к общественной жизни. Судьям, прокурорам, следователям, милиции стоило бы самим на себе испробовать *ИХ* систему и *ИХ* отношение к людям...

В любой зоне есть "крысы" — те, которые воруют у своих же. Мы их бойкотировали, били, выгоняли из-за общего стола в столовой... Но оперативники возмущались: "Как так, почему, на каком основании? Только мы можем решать, кого наказывать, а кого — нет". И приговор у них был всегда один: наказать! Но не "крысу" — люди в погонах их всегда защищали. Я возмущался: мы все здесь — осужденные. И мы должны исправляться. Как можно поддерживать человека, который, уже однажды нарушив закон, нарушает его еще раз, в тюрьме?! Им наоборот нужно предъявлять более жесткие требования. Но разве объяснишь это людям, которые в открытую экспроприируют половину передачи, предназначенную осужденным?..

Зону запросто можно сделать самоокупаемой. Когда я сидел, в зоне находилось порядка двух с половиной тысяч людей. Каждый хочет получить лучшие условия, дополнительную передачу, встречу с родными... Ребята готовы за это на законных основаниях платить. Уверен: каждый бы нашел деньги.

## Проклятый штампик

— В общей сложности я отсидел четыре года. На зоне ко мне относились лучше, чем ко всем остальным. Хотя и там встречались неудовлетворенные жизнью люди, которые, видимо, из чувства зависти или накопившейся желчи, всячески стремились причинить боль. При этом объяснялось все довольно просто: чтобы жизнь малиной не казалась. Честно говоря, с администрацией у меня были достаточно сложные отношения. Я соблюдал законы уголовного мира, а они, разумеется, отличаются от традиционных требований администрации колонии. Скажем, если ты достаточно авторитетный человек, то, по законам уголовного мира, не должен мыть посуду. Если моешь — завоеванный авторитет навсегда теряешь и никто с тобой уже считаться не будет. Степень моей известности не давала мне права опускаться. И я часто объяснял руководству колонии: для того, чтобы навсегда уйти из этого мира, я должен отсидеть по их законам. Абсурдно, но именно это помогло мне выйти из зоны человеком...

После отсидки бывшие зеки возвращаются в нормальное общество. Истерзанные, сломанные, ожесточенные, уничтоженные. Но самое страшное — оторванные от жизни. Отсидев три года, они уже лишены социальных связей, работы, друзей. Что делает такой человек? Снова идет на преступление. Годы в зоне можно сравнить с ездой "Запорожца". Кажется, едешь на максимальной скорости, но знаешь, что там, за забором, на воле — мчится гонка "Формулы-1". И, освобождаясь, осознаешь, как безнадежно ты отстал. Страна улетела на сотни тысяч километров вперед, а ты остался. Остался один на один со своими чувствами. И люди вдобавок ко всему от тебя шарахаются, как черт от ладана...

Тюремные университеты — печать на всю жизнь. Даже сегодня я чувствую, что на мне где-то стоит этот проклятый штампик. Впрочем, мне всегда напоминают, что он на мне есть...

**Марина КОКТЫШ.**
**Коллаж Владимира ПУСТОВАЛОВА.**

# Всеобщая декларация прав человека

*Принята и провозглашена резолюцией 217 А (III) Генеральной ассамблеи ООН от 10 декабря 1948 года*

**Статья 9**

***Никто не может быть подвергнут произвольному аресту, задержанию или изгнанию.***

**Статья 10**

***Каждый человек, для определения его прав и обязанностей и для установления обоснованности предъявленного ему уголовного обвинения, имеет право, на основе полного равенства, на то, чтобы его дело было рассмотрено гласно и с соблюдением всех требований справедливости независимым и беспристрастным судом.***

**Статья 11**

***1. Каждый человек, обвиняемый в совершении преступления, имеет право считаться невиновным до тех пор, пока его виновность не будет установлена законным порядком путем гласного судебного разбирательства, при котором ему обеспечиваются все возможности для защиты.***

***2. Никто не может быть осужден за преступление на основании совершения какого-либо деяния или за бездействие, которые во время их совершения не составляли преступления по национальным законам или по международному праву. Не может также налагаться наказание более тяжкое, нежели то, которое могло быть применено в то время, когда преступление было совершено.***

**Любопытно**

## Тюремный алфавит знать не желаете?

Наверное, моя просьба покажется необычной. Хочу попросить вас опубликовать на страницах "Народной воли" тюремный алфавит. В другой стране, может, его знать не обязательно. Но в нашей Беларуси это очень актуально. Сколько людей содержится за решеткой! И приговор не вынесен, и на свободу нельзя. И неизвестно, сколько еще граждан пройдет через железные тюремные ворота. Люди должны знать эту несложную грамоту, чтоб, если закроют в толстостенной камере, мог дать о себе сигнал. Тем более что выучить ее — дело очень простое.

Весь русский алфавит разбивается на шесть строчек, по пять букв в каждой:

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | а | б | в | г | д |
| 2 | е | ж | з | и | к |
| 3 | л | м | н | о | п |
| 4 | р | с | т | у | ф |
| 5 | х | ц | ч | ш | щ |
| 6 | ы | ь | э | ю | я |

Сначала выстукивается цифра строчки, потом цифра буквы в строчке. Между цифрами нужно делать небольшую паузу. Чтоб выстучать, скажем, "свобода" по этой азбуке, нужно стучать так:

| с | в | о | б | о | д | а |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 4-2 | 1-3 | 3-4 | 1-2 | 3-4 | 1-5 | 1-1 |

Подписываюсь именем вымышленным —

**Мирон ЗАДУМА.**

**Лiст з-за кратаў**

## Чаму і за што мы праклятыя?

Мне інкрымінуецца следствам артыкул $169^1$ Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь (пасрэдніцтва ў хабарніцтве). Пад следствам знаходжуся ўжо адзінаццаць месяцаў. За ўвесь гэты час мне ні разу не далі спаткання з жонкай і маім трохгадовым сыночкам. Але... Праблем зараз хапае ва ўсіх. Мне хочацца расказаць не пра іх.

Раз або два на тыдзень (бывае і радзей) да нас трапляе паважаная "Народная воля". Ваша газета друкуе пазнавальныя артыкулы пра беларускую мову, якую трэба ведаць і любіць, пра нашу Беларусь — калісьці Вялікае княства Літоўскае.

У турме асабліва часта задаеш сабе пытанне: чаму і за што мы праклятыя? Мне, беларусу ў пятым пакаленні, балюча назіраць, як наш народ губляе свае карані, забывае пра сваю незалежнасць. Спадзяюся, што, нягледзячы ні на што, наша дзяржава свой гонар не страціць. Наша сінявокая Радзіма выстаіць і пераможа.

**З павагай —**
**арыштант Гомельскага СІЗА-3 Аляксандр КАМІНСКІ.**

**Заклік**

## Плач маці

Я, Лідзія Цімафееўна Кудзінава, маці дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання, асуджанага да сямі гадоў пазбаўлення волі, звяртаюся да міжнароднай грамадскасці, да амбасадараў усіх краін, што знаходзяцца на Беларусі, асабіста да кіраўніка місіі АБСЕ спадара Віка, да супрацоўнікаў прадстаўніцтва ААН на Беларусі з заклікам аб дапамозе і падтрымцы майго сына.

Зараз ён адбывае пакаранне ў калоніі ўзмоцненага рэжыму УЖ 15/1 горада Мінска. Адміністрацыя ўстановы не дапускае яго да працы, кідае ў халодны карцэр, запалохвае ўсіх асуджаных, хто мае з ім зносіны...

Кудзінаў патрабуе ад адміністрацыі выканання абяцанняў па паляпшэнні ўмоў утрымання яго ў калоніі. Пасля такіх яго дзеянняў адміністрацыя паказвае, "хто ў хаце гаспадар". І не паляпшаюцца, а пагаршаюцца ўмовы яго ўтрымання. І ў дадатак да гэтага накладваецца чарговае спагнанне — у гэты раз яго пазбавілі працяглага спаткання з роднымі.

Мой сын з дзяцінства вылучаўся дабрынёй, прыстойнасцю і сумленнасцю. Я вельмі добра разумею, што дзеянні адміністрацыі ўстановы УЖ 15/1 накіраваны на тое, каб зламаць дух і волю майго сына, давесці яго да псіхічнай неўраўнаважанасці.

А таму я звяртаюся да кіраўніка УЖ 15/1 І.І.Бахура, да намесніка кіраўніка УЖ 15/1 Ю.А.Барэнкова, а таксама да ўсіх тых, хто мае непасрэдныя адносіны да праследаванняў Уладзіміра Кудзінава. Хачу спытаць у вас: ці ёсць у вас маці, жонкі, дзеці? Калі ёсць, то я жадаю папрасіць іх падарыць сваім сынам, мужам хаця б кроплю дабрыні і спавагі да іншых людзей.

Мне 75 год. Я прайшла вайну, не дачакалася з вайны мужа. Бачыла немцаў, так званых фашыстаў, і ніколі не думала, што мне прыйдзецца яшчэ раз на старасці пераджыць тое ж, што і ў часы вайны.

**З павагай —**
**Лідзія КУДЗІНАВА,** *інвалід 2-й групы, 75 год.*
*в. Танежыцы Слуцкага раёна.*

**Адным абзацам**

**По афіцыйных звестках, зараз на Беларусі за кратамі знаходзіцца амаль 64 тысячы асуджаных, прытым што месцы пазбаўлення волі разлічаны на 41 600 чалавек. Следчыя ізалятары і папраўча-працоўныя ўстановы перапоўнены ў паўтара раза.**

**Задумаемся...**

## Зона Беларусь

Нядаўна сярод асуджаных Гомельскай папраўча-працоўнай жаночай калоніі (УЖ 15/4) праводзілася сацыялагічнае апытанне, прымеркаванае да пацідзесяцігоддзя з дня прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Зняволеным прапаноўвалася адказаць на пытанні, звязаныя з захаваннем правоў чалавека ў нашай краіне.

Высветлілася, што 93 працэнты спецкантынгенту знаёмыя са зместам Дэкларацыі. Адпаведна атрыманым звесткам, ніхто ў гэтай установе не падвяргаецца катаванням альбо бесчалавечным відам пакаранняў. 35 працэнтаў апытаных паказалі на псіхалагічны прэсінг, які пераносіцца намнога больш складана і драматычна, чым фізічны боль. 72 працэнты арыштантак лічаць, што ў іх ёсць рэальная магчымасць адстаяць свае правы, што ўсе людзі роўныя перад законам і маюць права на абарону ад якой бы то ні было дыскрымінацыі. 97 працэнтаў пацвердзілі, што ў турме выконваецца палажэнне Дэкларацыі аб прызнанні правоў суб'ектнасці асобы: у арыштантак ёсць магчымасць звяртацца да пракурора па наглядзе і ў Вярхоўны суд.

Але самае цікавае, што 71 працэнт зняволеных жанчын лічыць, што не толькі ў асуджаных, але і ва ўсіх людзей Беларусі няма роўных правоў і магчымасцяў. І што цяперашняя Канстытуцыя, законы і іншыя нарматыўныя акты Рэспублікі Беларусь не здольныя ў поўнай меры абараніць правы, гонар і годнасць грамадзян. Так ацэньваюць прававыя гарантыі ў нашай дзяржаве 72 працэнты жанчын, якія знаходзяцца ў няволі.

Калі верыць вынікам праведзенага апытання, сёння ў Гомельскай жаночай калоніі больш-менш кантралюецца захаванне правоў чалавека. А як быць з правамі таго ж чалавека на волі? Думаю, ёсць нагода задумацца...

**Марына КОКТЫШ.**

**Сравним**

# Немецкая тюрьма

***Тюрьма в городе Шверте земли Северный Рейн-Вестфалия считается одной из лучших в Германии. Это закрытое заведение, и не всякому немецкому журналисту удается воочию познакомиться с его внутренним миром. Мне выпала уникальная возможность побывать в этой тюрьме благодаря Минскому Международному образовательному центру и IBB Дортмунда, которые получили разрешение на посещение данного заведения в Министерстве юстиции.***

***При подъезде к тюрьме сразу бросаются в глаза большие ворота ярко-голубого цвета. Не мрачно-серые тона отечественных тюрем, а входные врата цвета надежды, первое впечатление для каждого входящего...***

## Вотчина Министерства юстиции

Мужская тюрьма в Шверте была построена в 1971 году. Она является вотчиной Министерства юстиции, и потому почти все ее работники являются государственными чиновниками. Тюрьма рассчитана на 268 заключенных, в настоящее же время она на четверть переполнена — здесь отбывают свой срок 345 человек. И потому, как посетовал в беседе со мной начальник тюрьмы господин Петер Вольтерс, в некоторых одиночных камерах сейчас приходится уживаться двум заключенным, а в нескольких камерах, рассчитанных на три человека, ютятся аж четверо. Но скоро ситуация изменится к лучшему, потому что сейчас к тюрьме пристраивается новое крыло.

Всего в земле Северный Рейн-Вестфалия, в которой проживает 17 миллионов жителей, находится 37 тюрем, где отбывают наказание около 90 тысяч заключенных.

Третья часть заключенных в Швертовской тюрьме — иностранцы (из них 25 человек — немцы, переселенцы из бывшего СССР), 60% тюремных затворников — рецидивисты. Сейчас в тюрьме находится 27 человек, осужденных на пожизненное заключение. В основном убийцы. После 16 лет отсидки они могут быть амнистированы, и после повторного суда пожизненное заключение обычно заменяют временным — сроком от 19 до 21 года.

За два года здесь случилось два самоубийства. И до сих пор не было ни одного удачного побега, хотя такие попытки предпринимались не раз.

На одного заключенного государство ежедневно тратит 160 марок, 10 из которых приходится на питание. В тюремном рационе есть три различных меню, однако при желании заключенные могут готовить себе сами. В этом я, кстати, смогла убедиться воочию, когда проходила рядом с открытыми камерами, и на меня прямо-таки повеяло аппетитным запахом свежевыпеченного теста — в небольшой кухоньке, оснащенной самой современной бытовой техникой, немецкие зэки пекли пирожки.

На 345 заключенных в Швертовской тюрьме приходится 154 служащих, 60 из них носят униформу. В штате — четыре психолога и пять социальных работников. По закону каждый заключенный имеет право на заботу о своей душе. И потому на территории тюрьмы есть большая часовня, в которой представители самых различных конфессий могут проводить богослужения. Для мусульман, а их в тюрьме около шестидесяти человек, специально приходит ходжа. Эту часовню также часто используют в качестве концертного зала.

Сама тюрьма состоит из трех зданий, соединенных между собой. В одном крыле находятся заключенные, которые живут в четырех группах по интересам. Считается, что арестантам лучше жить в социальных группах для того, чтобы легче адаптироваться к жизни после выхода на волю. Тут двери камер открыты и заключенные могут общаться друг с другом сколько угодно. Второе крыло — для наркоманов. Там особые условия — лечение, трудотерапия (заключенные раскрашивают игрушки, собирают прищепки). В третьем крыле находится 130 заключенных, отбывающих длительные сроки.

## Единственное ограничение — тюремные стены

Только прибывшим заключенным администрация предлагает посмотреть ознакомительный фильм о тюрьме. Такая возможность представилась и мне. В фильме снимался настоящий арестант, и съемки проводились с его согласия.

... Из окон подъезжающей машины виднеются входные тюремные врата. Заключенный заходит внутрь. Вначале — предварительная камера, затем — специальное помещение, где выдают постельные принадлежности, отдельную посуду и обувь. После этого следует беседа с работником тюрьмы, заполняются необходимые документы. Далее — медицинское обследование. Заключенных не стригут. Потом социальные работники предлагают новоиспеченному заключенному на выбор одиночную камеру или пребывание в группе.

Через 14 дней составляется план дальнейшего пребывания в тюрьме, который обсуждают с самим заключенным. Ему также объясняют, в каких случаях он будет иметь шанс на досрочное освобождение. Арестантам предлагаются 24 вида различных занятий. Тем, кто нуждается в учебе — занятия в "местной" школе. Тут же выясняется, кто его будет посещать — жена, родители, брат или сестра. В месяц заключенным предоставляется 6 часов посещений. Во время свиданий гарантирована полная конфиденциальность. Рядом с комнатами свиданий есть специальная детская комната.

Заключенным каждый год предоставляется 12 дней отпуска. Их можно использовать сразу полностью или же по частям. Можно взять два дня отпуска в месяц, и в этот срок не будет засчитываться время на дорогу домой и выходные дни. Каждый отбывающий наказание в тюрьме в Шверте имеет право на два телефонных звонка в неделю. Любая корреспонденция идет без всякой цензуры.

При желании заключенные могут работать в специальном цехе. Заказчики тюремной продукции — автомобильные концерны "Опель", "Мерседес" и другие. Им выгодно использовать труд заключенных, поскольку не надо платить больничные и отпускные. Между прочим, в пятницу у тюремных "работяг" сокращенный рабочий день — трудятся только до 12 часов. Их зарплата составляет от 150 до 400 марок в месяц.

В тюрьме есть прачечная, которая обслуживает не только своих заключенных, но и другие заведения подобного рода, и неплохо этим зарабатывает. В прачечной можно постирать, высушить и выгладить 40 тонн белья в неделю.

## Как коротают время немецкие зеки

Светлые просторные коридоры, идеальная чистота — это я прохожу по тюремным "артериям". На стенах не счесть ярких необычных картин — это работы заключенных. Немецкая тюрьма совсем не производит мрачного впечатления, скорее напоминает санаторий для высокого начальства.

Мне выпала возможность побывать в одиночной камере. Небольшая комнатка в 9 квадратных метров, умывальник, туалет, невысокая этажерка, телевизор, магнитофон, шкаф, кровать, столик, кресло. На кровати сидят двое заключенных и смотрят телевизор. Из беседы с ними я выяснила, что сидят оба они около двух лет, в тюрьме подружились и часто заходят друг к другу в гости...

Как коротают час немецкие заключенные, кроме как в дружеских беседах? Можно пойти в спортивный зал со множеством тренажеров или же на спортивную площадку на улице. Заключенные любят заниматься групповыми видами спорта и даже устраивают турниры, например, пляжный волейбольный турнир, соревнуются в спортивных достижениях с другими тюрьмами. Я видела большой стенд со спортивными кубками. Иногда заключенные проводят забеги за пределами тюрьмы(?!).

В тюрьме в Шверте немецкие зеки издают свою газету с весьма метафоричным названием — "Кукушкино яйцо". Здесь есть настоящая арестантская редакционная коллегия, своя типография, Интернет, современная компьютерная техника. На базе тюремной типографии издаются также газеты других тюрем. Я пролистала несколько номеров "Кукушкиного яйца" — около пятидесяти страниц, отличная полиграфия, тематические разделы: спортивный, музыкальный, литературный, кулинарный (заключенные делятся своими фирменными рецептами) и масса самой разнообразной информации. В тюрьме также есть прекрасная библиотека на разных языках, компьютерный класс.

Уважаемый читатель, не складывается ли у Вас впечатление, что здесь речь вовсе не о тюремной жизни, а о санаторно-курортном отдыхе? Тем не менее все вышеописанное — правда. Продолжу удивлять далее. Речь пойдет о самой насущной, "больной" теме. В тюрьме прекрасно оснащенный медицинский кабинет, в наличии есть все медикаменты, антибиотики, обезболивающие, всевозможные лечебные чаи, плюс кабинет стоматолога, небольшая операционная, кабинет физиопроцедур, массаж. Если срочно требуется помощь специалиста узкого профиля, заключенного везут в другую поликлинику. В дополнение к санитарно-гигиенической теме добавлю, что в душ заключенные могут ходить сколько угодно в любое время. Есть даже одна большая ванная с джакузи.

Провинившихся заключенных направляют в изолятор, в котором можно находится не более суток. Это небольшая комната, хорошо отапливаемая, без окон, на полу — мягкий матрас. Скрытая камера следит за действиями заключенного... Следует отметить, что при большой свободе перемещения заключенные ни на минуту не остаются без надзора со стороны работников тюрьмы. За ними наблюдают, но очень незаметно и ненавязчиво. В каждом крыле камеры подключены к общей компьютерной сети, и если у арестанта что-либо не в порядке, он может нажать на кнопку и по переговорному устройству сообщить о своих проблемах.

"Немецкие заключенные ограничены лишь одним — стенами тюрьмы, — говорит Петер Вольтерс. — Все остальные права им здесь гарантированы..." Во время нашей беседы я поделилась с ним тем прекрасным впечатлением, которое на меня произвела тюрьма в Шверте, на что он скромно заметил: "Я, может быть, не показал Вам всего того плохого, что у нас есть..." А в конце беседы господин Вольтерс пожаловался: "Немецкие журналисты почему-то пишут о наших тюрьмах только плохое..."

...Немецкая тюрьма. Предмет удивления и восхищения для белоруса. И нелегкая расплата за совершенные преступления для жителя Германии...

**Анна СОУСЬ.**

**Стоп-кадр**



*Вчэра...*

Конкурс!

# Дзеля свабоды слова

*На III з'ездзе Беларускай асацыяцыі журналістаў было прынята Палажэнне аб узнагароджанні Ганаровым дыпломам БАЖ "За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі". Але так сталася, што інфармацыя аб гэтым конкурсе ў свой час не была даведзена да шырокай грамадскасці і саміх журналістаў. Рэдакцыя "Народнай волі" ліквідуе ўпушчэнне, публікуючы вышэйназванае Палажэнне.*

## ПАЛАЖЭННЕ

### Аб узнагароджанні ганаровым дыпломам БАЖ

*"За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі"*

1. Ганаровым дыпломам БАЖ "За ўсталяванне свабоды прэсы на Беларусі" ўзнагароджваюцца персанальна сябры БАЖ, якія ўнеслі істотны ўклад у развіццё незалежных сродкаў масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

2. Узнагароджванне названым дыпломам праводзіцца па выніках чарговага каляндарнага года і прымяркоўваецца да Сусветнага дня свабоды друку (3 мая).

3. Заслугі саіскальніка ва ўсталяванні свабоды прэсы павінны атрымаць грамадскае прызнанне, у тым ліку і сярод журналістаў.

4. Кандыдатуры саіскальнікаў на ўзнагароджанне ганаровым дыпломам БАЖ могуць вылучаць сябры Рады БАЖ, калектывы рэдакцый газет, рэгіянальныя арганізацыі БАЖ.

На кожнага саіскальніка складаецца кароткая рэкамендацыя, у якой адзначаецца, за што канкрэтна саіскальнік прадстаўляецца да ўзнагароды.

5. Саіскальнікі вылучаюцца пасля заканчэння каляндарнага года да 1 сакавіка наступнага года ўключна.

Прапановы аб саіскальніках ганаровага дыплома і іх кароткія рэкамендацыі накіроўваюцца старшыні журы або яго намесніку.

Не пазней чым 25 сакавіка кожнага года на пасяджэнні журы праводзіцца абмеркаванне кандыдатур саіскальнікаў.

6. Са спіса прапанаваных кандыдатур журы адбірае не больш чым 9 саіскальнікаў.

Зацверджанай лічыцца кандыдатура таго саіскальніка, які атрымаў большасць галасоў сяброў журы.

Па кожным прынятым рашэнні складаецца пратакол, які падпісваецца старшынёй (пры яго адсутнасці — намеснікам старшыні) і сакратаром.

Адносна кожнага лаўрэата даецца дакладная фармулёўка, за што прапануецца ўзнагародзіць яго ганаровым дыпломам БАЖ.

7. Рашэнне журы аб узнагароджанні ганаровым дыпломам БАЖ дакладваецца старшынёй (намеснікам старшыні) журы на чарговым пасяджэнні Рады БАЖ і ўступае ў сілу пасля зацвярджэння Радай БАЖ.

Сябры Рады БАЖ могуць заявіць адвод некаторым саіскальнікам ганаровага дыплома, абгрунтаваўшы матывы адводу. Калі будзе прызнана, што матывы адводу заслугоўваюць увагі, то журы мае права на працягу пяці дзён перагледзець сваё рашэнне ў адносінах да гэтага саіскальніка. У такім выпадку склікаецца пасяджэнне журы і складаецца пратакол, у якім абгрунтоўваюцца матывы змены рашэння.

8. Пасля зацвярджэння Радай БАЖ рашэнне журы абвяшчаецца публічна і перадаецца ў сродкі масавай інфармацыі.

9. Ганаровыя дыпломы маюць парадкавы нумар (з моманту іх заснавання 3-м З'ездам БАЖ ад 16 студзеня 1999 года) і ўручаюцца персанальна канкрэтнаму лаўрэату.

Паўторнае ўзнагароджанне ганаровым дыпломам БАЖ не дапускаецца.

10. Кожны лаўрэат заносіцца ў Кнігу гонару БАЖ, дзе змяшчаюцца кароткія біяграфічныя звесткі лаўрэата, нумар дыплома, дата ўзнагароджання і фармулёўкі ўзнагароджання. У Кнізе гонару БАЖ змяшчаецца таксама фотаздымак лаўрэата і яго персанальны подпіс.

11. Лаўрэат ганаровага дыплома БАЖ узнагароджваецца каштоўным падарункам.

* * *

14 студзеня 1999 г. праўленне БАЖ зацвердзіла наступны склад журы па ўзнагароджанні ганаровым дыпломам БАЖ:

1. **Сяргей Ваганаў** — віцэ-прэзідэнт БАЖ (старшыня журы);
2. **Анатоль Гуляеў** — віцэ-прэзідэнт БАЖ (намеснік старшыні);
3. **Вольга Караткевіч** — віцэ-прэзідэнт БАЖ (сакратар);
4. **Міхаіл Пастухоў** — дырэктар цэнтра прававой абароны СМІ;
5. **Сяргей Чыгрын** — намеснік рэдактара "Газеты Слонімскай".

## У Краснадоне дзевяць шахцёраў парэзалі сабе вены

У забоі шахты імя Баратава холдынгавай кампаніі "Краснадонвугаль" (Луганская вобласць) восем праходчыкаў і электраслесар зрабілі спробу самазабойства, парэзаўшы сабе вены. На гэты адчайны ўчынак шахцёры вымушаны былі пайсці з-за таго, што восем месяцаў не атрымлівалі зарплату, паведаміла агенцтва ДІНАУ. Апошняй кропляй, што перапоўніла чашу цярпення гарнякоў, якія не пратэставалі і кожны дзень выдавалі вугаль, стала тое, што іх калегі, якія баставалі, пасля пяцімесячнай асады Луганскай аблдзяржадміністрацыі пачалі атрымліваць зарплату. Пра тых жа, хто працаваў і ў самыя цяжкія дні, не успомнілі ні ўрад, ні іншыя органы выканаўчай улады.

Шахцёрам, якія спрабавалі пакончыць з сабой, аказана тэрміновая медыцынская дапамога, і цяпер іх жыццю нічога не пагражае. Але яны разам са сваімі таварышамі адмовіліся падымацца на паверхню да таго часу, пакуль ім не выплацяць запазычанасць.

Стоп-кадр

## Уцёк страус у пошуках кахання...

Пяць дзён уся Швецыя сачыла за прыгодамі страуса, які ўцёк з фермы Грэнскула, што знаходзіцца недалёка ад Мальмё. Племянны страус па клічцы Стурэ (Вялікі) стаў усешведскай славутасцю і адначасова цудоўнай рэкламай для свайго гаспадара, які ўтрымлівае ферму для страусаў і некалькі бістро-рэстаранаў, у меню якіх уваходзіць страусавае мяса.

Стурэ 5 гадоў, важыць ён 150 кілаграмаў, самец у поўным росквіце сіл. А ўцёк ён з-за таго, што яго страусавай душы тэрмінова захацелася кахання і ласкі. Страусы ў такія перыяды вельмі агрэсіўныя і нервовыя, у бойку ўступаюць без прычыны і без папярэджання. Але пабег ён не ў поле і лес, а на вялікую аўтадарогу, дзе яго жыццю пагражала небяспека, ды і ён перашкаджаў руху. Таму страуса суправаджалі паліцэйскія машыны і адначасова кінагрупа, якая, несумненна, прадасць унікальны сюжэт за вялікія грошы.

Каштуе Стурэ каля 100 000 крон, таму аб тым, каб яго падстрэліць, і гаворкі не магло быць. Злавіць страуса практычна немагчыма, бо бегае ён са скорасцю 75 кіламетраў у гадзіну. Акрамя таго, удары яго лап могуць быць смяротнымі.

Каб злавіць страуса, спачатку хацелі выпусціць самку, як прынаду, але затым гэта ідэя была адхілена, бо, хутчэй за ўсё, парачка знікла б. Тады вырашылі ўзяць яго зморам, гэта значыць чакаць, пакуль Стурэ змерзне і стоміцца, тады да яго можна будзе падысці, а затым накінуць на галаву сачок і адвезці на родную ферму.

На тое, каб Стурэ стаміўся і добраахвотна здаўся запатрабавалася некалькі дзён. За гэты час на адрас рэдакцый газет, радыё і тэлебачання насельніцтва даслала шмат розных парад аб тым, як ловяцца страусы і адначасова як не трапіць пад "гарачую нагу" ўцекача.

Стурэ злавілі на пяты дзень. Цяпер ён знаходзіцца дома на ферме, дзе жывуць яшчэ 30 страусаў. Ён ужо з задавальненнем танцуе шлюбныя танцы з некалькімі маладымі страусіхамі. А ў бістро-рэстаранах яго гаспадара павялічылася колькасць наведвальнікаў.

## Пазбавіўся трактара з прычэпам

На прасёлачнай дарозе ўсяго ў шасцістах метрах ад граніцы з Літоўскай Рэспублікай увагу пагранічнікаў і апергрупы міліцыі з Пастаў прыцягнуў трактарны прычэп з саломай. Час ішоў, а трактарыст нікуды не ехаў, як і не глушыў свой уласны МТЗ-80. Пачаў нервавацца сядзеўшы ў кабіне В.Койра, бо за дастаўленым грузам чамусьці не з'яўляўся малазнаёмы літовец. Зусім сапсаваўся настрой у вяскоўца, калі людзі ў пагонах неўзабаве знайшлі ў прычэпе схаваныя ў мяшках 233 бутэлькі мінскай гарэлкі "Крышталь" і 1551 — настойкі "Празрыстая".

Замест абяцанага ганарара ў выглядзе некалькіх бутэлек няўдалы экспедытар-навічок атрымаў абвестку ў суд, які аштрафаваў механізатара на 25 млн. рублёў. Акрамя гэтага ў вяскоўца канфіскаваны трактар з прычэпам і, зразумела, увесь кантрабандны тавар. Калі неўстаноўленай прадпрымальнай асобе страта тысячы долараў — не такая вялікая бяда, то ягонаму беларускаму напарніку вярнуць згубленыя 5,7 млрд. рублёў пры цяперашніх жабрацкіх заробках не хопіць часу да канца жыцця.

Апошнім часам усё часцей спробы добра зарабіць на вывазе тавараў у Літву заканчваюцца канфузам і буйнымі непрыемнасцямі. Адначасова са справай Койры суд Пастаўскага раёна аштрафаваў яшчэ дваіх грамадзян А.Таміліну і Г.Бондара на 25 млн. рублёў кожнага і канфіскаваў іх уласныя аўтамабілі, на якіх таксама везлі ў суседнюю дзяржаву гарэлку. На апошнім рубяжы краіны цяпер строга, і толькі на адным участку мясцовай пагранкамендатуры летась затрымалі 91 парушальніка граніцы, уключаючы 7 афраазіятаў, канфіскавалі кантрабандных тавараў на 5,4 млрд. рублёў.

**Уладзімір ШЫК.**

## 9 выпадкаў забойстваў немаўлят зарэгістравана з пачатку гэтага года ў Гомельскай вобласці

У Гомельскай вобласці назіраецца ўсплёск забойстваў немаўлят: з пачатку года ўжо зарэгістравана 9 такіх выпадкаў. Нованароджаных, як правіла, знаходзяць у смеццезборніках, грамадскіх прыбіральнях альбо проста ў сугробах снегу. Напрыклад, днямі ў Мазыры былі знойдзеныя адразу два немаўляці — дзяўчынка была задушана, а прычына смерці хлопчыка высвятляецца экспертамі. Па ўсіх фактах узбуджаныя крымінальныя справы. На жаль, пакуль толькі ў некалькіх выпадках сталі вядомыяасобымаці-злачынцаў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

# Женские слезы

*(Продолжение. Начало в № 31)*

## 2. Крик

Его трудно понять. Поступок, который он совершил, не поддается объяснению. Может, читатели помогут разобраться.

...Николай собрался с женой ехать в деревню по ягоды. Вышел на улицу, чтобы потолковать с шофером. Потом вдруг решил подняться в квартиру. В это время в подъезд вошла соседка-школьница. Вот что она рассказывала потом следователю и на суде.

"В подъезде вошла в открытый лифт. Там уже был сосед Николай. Он нажал на пятый этаж, и мы стали подниматься. От него шел сильный запах водки. Спросил, как меня зовут и сколько лет. Я сказала, что двенадцать, а зовут Катей.

Приехали на свой этаж. Я пошла открывать свою квартиру, а он стоял за спиной напротив своей. Когда открыла дверь, он вдруг затолкал меня в коридор и захлопнул дверь. Я испугалась. Он попросил поставить какую-нибудь кассету. Я поставила, села на край кровати. Дядя сел рядом, потом начал класть меня на кровать. Закричала. Он закрыл рот руками и пригрозил, что будет плохо, если стану кричать. Снял трусы и изнасиловал. Потом поставил меня на колени и приказал никому не рассказывать.

После этого ушел. Я убежала к подружке и позвонила маме на работу, все рассказала.

Даже матерый, кровожадный волк и тот не нападает на добычу возле деревни, где обосновался. Уходит подальше. А этот насилует малолетнюю дочь своих соседей, слушая за стеной шаги жены. Чем это можно объяснить? Только одним. Такие люди видят в женщине лишь объект для удовлетворения своих животных потребностей. И ничего более.

В этом убеждают многие криминальные истории.

Аркадий вернулся с работы под хмельком. Мать Иринки ушла в магазин, а отчим сразу же, как только закрылась за ней дверь, подошел к девятилетней девочке, взял на руки и молча понес в спальню, начал насиловать, как выражаются юристы, в извращенной форме. Она вырывалась, плакала. Когда начинала кричать, бил, угрожал, что задушит, если кому скажет. Запуганная девочка лишь сжималась от боли и стонала.

С тех пор и началось. Как мать за дверь, Аркадий в постель к падчерице. И снова угрозы: если будет кричать или кому расскажет, задушит не только ее, но и братика.

Иринка радовалась, когда мать пристроила ее с братиком в санаторий. Надеялась, что вдали от отчима ей будет хорошо. Но надежды не оправдались. В выходные увидела идущих к ней мать и отчима. У девочки сразу пропало настроение.

— Дочка, что с тобой? — забеспокоилась мать.

— Да нет, так, — тихо, опустив глаза, говорила она.

Улучив минуту, отчим взял ее за руку и затащил в изолятор, закрыл дверь и сделал свое дело. Он еще раз приезжал "проведать".

А что же мама? Неужто ничего не замечала? Ведь муж регулярно насиловал ее дочь на протяжении шести лет. Она, видимо, жила своими заботами. В семье часто были скандалы. Так что не до дочки было. Учителя школы тоже лишь констатировали замкнутость Иринки. За нее заступался только маленький братик. Он просил отца не обижать сестру, за что получал ремнем. Да одна медсестра санатория почуяла неладное, разговорилась с девочкой и срочно вызвала мать для беседы.

Понятно, что в этой истории, как и в других, я не могу назвать настоящие имена девочки и других участников драмы, по которым можно "вычислить" ее. Все остальное правда, взятая из протокола судебного заседания.

Зарубцуется ли душевная рана Иринки? Или она так и будет жить с психологией рабыни? Ясно, что подобные травмы не исчезают бесследно. Так что великий Р.Тагор был совершенно прав, утверждая, что человек хуже животного, когда он становится животным. Но от чего происходит такое перерождение?

Интересную мысль высказал Фридрих Шиллер: "Что кажется порой лишь случаем слепым, то рождено источником глубоким". Рассмотрим несколько "слепых случаев" и попытаемся отыскать их "источник". Здесь я хочу кратко напомнить несколько историй, о которых уже приходилось рассказывать, ибо они просто "сами просятся" в наш разговор.

Животновод колхоза появился на ферме перед сумерками. Он уже осушил не одну рюмку, и в его глазах горел дьявольский огонь. Взяв в руки металлическую трубку, Константин подкрался к доярке Анне, которая задержалась на ферме, и со всей силы ударил по голове. Она повалилась и потеряла сознание. "Используя беспомощное состояние, — говорится в документах судебного дела, — снял сапоги, одежду до пояса и изнасиловал ее, в том числе и в извращенной форме".

После этого добил металлической трубой по голове, туловищу, рукам... Погрузил труп на повозку и отвез его в лес, километров за 6—7 от фермы, спрятал в снегу. Возвратившись домой, переоделся и "пошел к своей девушке, пробыл у нее до двенадцати часов".

А в это время почти вся деревня искала доярку. Муж, взволнованный, что поздно не возвращается, заглянул на ферму и увидел шапочку и рядом кровь...

Чем можно объяснить такой дикий поступок? "Водка виновата, — твердили многие сельчане. — Разве трезвый человек способен на такое?" "Бес попутал", — доказывали другие.

Чехов считал, что равнодушие — паралич души, ее преждевременная смерть. Салтыков-Щедрин писал, что самый страшный человек — равнодушный, безразличный к другому. От равнодушных людей можно ожидать всего.

Великие писатели образно подчеркивают ту истину, о которой уже сказано выше. В данной истории, как и в предыдущих, поражает именно безразличие к судьбе другого человека. В доярке Константин увидел лишь объект удовлетворения своей похоти. Ради этого убил мать двоих детей.

Видится здесь и безразличие к собственной судьбе, и еще что-то большее. Но вспомним пока еще одну поучительную трагедию.

...Они познакомились на улице. Андрей пригласил девушку к другу послушать музыку. Слушая мелодии, они пили вино, водку. Галина больше отказывалась, а Андрей осушал рюмку за рюмкой. Потом он повернулся к хозяину:

— Ты, кажется, хотел что-то почитать?

— Да-да... — поднимаясь, бормотал тот. Он взял книгу и пошел на кухню.

Андрей обхватил Галину и понес на диван. Она кричала, била его кулаками, но силы были не равны...

Через несколько дней он пришел в ее общежитие. Она закрыла дверь и не отзывалась. Хулиган поймал ее соседку по комнате и заставил ее постучать. Когда двери открылись, он проскочил в комнату. Самодовольный, сел рядом с Галиной, начал приставать со своими "нежностями". Уровень его духовности характеризовал словарный запас. В судебных протоколах чаще всего встречается вот эта фраза, с которой он обращался к девушке: "Тебя изнасиловать или отпустить?"

Напрасно Галина убеждала, что если он будет приставать, она бросит учебу и уедет домой. В ответ он повторял второе свое любимое выражение: "Уедешь тогда, когда полежишь подо мной".

Чтобы вырваться из его объятий и сбежать, она попросилась в туалет. Он пошел за ней, не дал даже закрыть двери. Дескать, делай все при мне.

Окончательно убедившись, что ждать помощи не от кого и чтобы защитить свое девичье достоинство, Галина решилась на отчаянный шаг. Как только негодяй отвернулся, она бросилась к окну... Сломала ноги, правое предплечье...

Драма разыгралась не на пустынном острове и не в темном переулке, а в студенческом общежитии на глазах многих молодых людей. И ни один из них не пришел на выручку коллеге по учебе, даже не пытался остановить хулигана, который до этого ударил девушку при входе в общежитие, грубо ворвался в комнату, где занимались студенты, разбросал и порвал конспекты многих.

Вот так — в огромном общежитии не нашлось ни одного человека, который остановил бы хулигана.

Еще одна история. Бравый отставник-пенсионер Василий с самого утра принял хорошую дозу спиртного. Да и как было не принять. Ведь 8 ноября — второй день Великой октябрьской социалистической революции. Спасибо коммунистам, что вернули светлый праздник. Вчера хорошо врезал с боевыми товарищами.

Спиртное его возбуждало, и он все внимательнее посматривал на шестнадцатилетнюю дочь. Та, видимо, почуяв недоброе, начала поспешно одеваться. В это время старый большевик, как зверь, прыгнул к ней. Обхватил руками тонкую талию и потащил в спальню, повалил на кровать. Дочка отбивалась, кусалась, плакала... Наконец схватила рукой гантель, разбила ею окно и начала звать на помощь.

Отставник уже взобрался на дочь, разорвал на ней платье и трусы, опустил свои брюки... Но настойчивый грохот в двери не позволил ему совершить задуманное. Подтягивая брюки, он открыл двери. Соседи увидели заплаканную, в синяках его дочь. Судебно-медицинская экспертиза обнаружила на теле потерпевшей рану на правой кисти руки, кровоподтеки на спине и правом плече.

Учитывая раскаяние, отсутствие тяжелых последствий, суд определил ему три года отсидки в исправительно-трудовой колонии.

...О подобных дикостях можно рассказывать долго. Мы видим, что женские слезы льются не только в стенах собственного дома. Опасность насилия подстерегает в подъезде, лифте, на улице, у знакомых... У женщины часто лишь одна защита — крик. Но надеяться на помощь почти не приходится.

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

гм *(Продолжение следует.)*

тся

Рэха

# Кожны трэці двор "паехаў" у Котлас,

## альбо Водгук на высновы гісторыкаў сталінскай школы

Дарагая рэдакцыя!

Вельмі ўзрушыў мяне, закрануў, як кажуць, за жывое аргументаваны, пераканаўчы артыкул Алеся Петрашкевіча "Стары абруч манкурта зноў павіс над галавой беларуса", змешчаны ў "Народнай волі" 22 снежня мінулага года. Цалкам падзяляю погляды аўтара ў ацэнцы пазіцый гісторыкаў — крытыкаў Хронік памяці А.Г.Хахлова і К.І.Дамарада. Гэтыя крытыкі спрабуюць даваць ацэнкі падзеям 20—40-х гадоў па-бальшавіцку, з арыенціроўкай на небезвядомы "Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", з якім, напэўна, не развітваюцца і па сённяшні дзень. Яны лічаць, нібыта ў хроніках калектывізацыя ў БССР адлюстравана негатыўна, а высылка на Поўнач і ў Сібір дзесяткаў тысяч сялянскіх сем'яў, залічаных у "кулакі", была гэткім бяскрыўдным "проявлением классовой борьбы".

Толькі і ўсяго... А мне падумалася: няхай бы гэтыя вучоныя прыехалі ў маю састарэлую, выміраючую ад "неперспектыўнасці" вёску Боркі — старажылы згадаюць ім усю праўду пра раскулачванне, пад якое трапілі вяскоўцы дзевяці з дваццаці чатырох двароў! Кожны трэці... Залічылі тады ў "кулакі" і на высылку самых працавітых, увішных, хто любіў зямлю, каго з цяжкасцю можна было аднесці нават да сераднякоў, бо мелі яны ад 5 да 8 гектараў зямлі, жылі ў ладзе і згодзе з аднавяскоўцамі, карысталіся ў іх павагай. Ды раскулачвалі іх прыезджыя з падачы сельсавета, да якога ад Борак было некалькі кіламетраў.

Даю пералік сем'яў, што былі этапіраваны з нашай вёскі за Котлас увесну 1930 года:

**МАЛЕВІЧ Язэп.** Высланы разам з жонкай, кожнаму было ўжо за 50 гадоў.

**МАЛЕВІЧ Андрэй**, сын Язэпа, жыў з сям'ёй асобна ў сваёй хаце. Высланы з жонкай і трыма малымі дзецьмі.

**МАЛЕВІЧ Васіль**, родны брат Язэпа. Быў удаўцом з дзвюма дзяўчынкамі-падлеткамі. Пры высылцы спагадлівая суседка паспела схаваць дзяўчынак у сваёй хаце, а пазней употай адвезла ў Мінск, да сваякоў. А 51-гадовы Васіль паехаў на катаргу...

**ЖАЎРЫД Андрэй** з жонкай і трыма малымі дзецьмі. Старэйшага сына, Ваньку, якому ішоў дзевяты год, суседзям удалося пераправіць да сваякоў жонкі Андрэя ў іншую вёску. Двое малодшых хлапчукоў на высылцы, у тайзе, памерлі ад тыфу.

**ЖАЎРЫД Ёсіп**, родны брат Андрэя. З жонкай-інвалідам, дарослым сынам і чатырнаццацігадовай дачкой трапіў на высылку ў Котлас, ужо з'яўляючыся калгаснікам: у 1935 годзе апынуўся сярод "неблаганадзейных", бо чытаў Біблію пры пахаванні памёрлых вяскоўцаў.

**ЗАБРОЦКІ Аляксандр.** Прачуўшы, што і яго сям'я трапіла ў спіс на высылку, употай уцёк з дому, аж да самай вайны жыў у сваяка ў Асіповічах. Жонку з трыма малымі дзецьмі "камбедчыкі" не адважыліся загнаць у вагон на высылку. Але аднялі хату і дазволілі жыць у... сенцах. Некалькі гадоў жанчыну не прымалі ў калгас, і яна хадзіла на работу за восем кіламетраў.

**ЗАБЕЛА Аляксандр.** Высланы з жонкай, цешчай і дзвюма дарослымі дзяўчынкамі.

**ПЕРАГУД Уладзімір.** Высланы з маці, жонкай і дарослым сынам.

**КУНЦЭВІЧ Костусь.** Высланы з жонкай і дзвюма дарослымі дочкамі ўжо будучы калгаснікам — як "неблаганадзейныя".

Але і гэтых ахвяр ахоўнікам "класавай чысціні" здалося мала. І ў 1937 годзе, калі па краіне раз'язджалі "чорныя варанкі", завітаў "хапун" і ў Боркі. Тады бясследна зніклі за адну ноч тры вяскоўцы: каваль Павел Жаўрыд, ужо немаладыя калгаснікі Пятрусь Кунцэвіч і Тодар Жаўрыд. Адзін з іх памёр на высылцы, двое вярнуліся пасля вайны.

Падаб'ём рахунак. У невялічкай вёсцы было рэпрэсіравана 39 чалавек — мужчын, жанчын, старых, дзяцей. Да канца 40-х гадоў вярнулася ўсяго 10 чалавек, астатнія альбо паўміралі ў тайзе, альбо дажывалі век на чужыне.

Наступствам той жорсткай "прачысткі" вёскі стала масавае бегства моладзі ў гарады — хоць на якую работу, абы толькі не заставацца ў калгасе.

Сёння склад вяскоўцаў такі: у сямі хатах атабарыліся гарадскія дачнікі, у трох, з забітымі дошкамі вокнамі, ніхто не жыве. У адзінаццаці хатах дажываюць век пенсіянеры, з іх чацвёра — адзінокія бабулі. Вось так прайшлося "чырвонае кола" па маёй вёсцы!

А колькі іх такіх на Беларусі? Вучоныя-гісторыкі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь А.Урублеўскі і Т.Процька ў выдадзенай у 1992 годзе брашуры "З гісторыі рэпрэсій супраць беларускага сялянства ў 1929—1934 гады" спасылаюцца, у прыватнасці, на дакладную запіску аб калектывізацыі, накіраваную з Мінска ў ЦК ВКП(б) у ліпені 1934 года. Дык вось: у Беларусі да гэтага часу налічвалася 35 тысяч сем'яў раскулачаных. Сучасныя даследчыкі, зазначаюць далей аўтары, называюць куды большую лічбу — 95,5 тысячы, або 15 працэнтаў ад усіх сялянскіх двароў. Такім чынам, з 5 мільёнаў насельніцтва БССР на той час рэпрэсіравана было — толькі з сялян — звыш 300 тысяч чалавек. І я цалкам падзяляю думку аўтараў брашуры, што сельская гаспадарка рэспублікі так і не змагла апravіцца ад патрасенняў 30—40-х гадоў. І многія сучасныя праблемы вёскі каранямі ідуць у тыя часы.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**ветэран працы.**

*г.Слуцк.*

# Дабрачыннасць з душком

Зусім не гуманітарнай атрымалася ў гэтым годзе паездка 73 магілёўскіх дзяцей на аздараўленне ў Бельгію. Многія з іх заплацілі па 350 долараў ЗША. У бельгійскіх сем'ях, куды іх пасялілі, нашчадкі зусім не бедных бацькоў пачалі "качаць правы" і патрабаваць за ўнесеную імі плату адпаведнага абслугоўвання і забаў. Вось тут і разгарэўся канфлікт.

Бельгійцы пачалі даказваць, што яны з самых гуманных намераў і бясплатна ўзяліся прымаць на аздараўленне дзяцей з рэгіёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а таксама з мнагадзетных і малазабяспечаных сем'яў. А прыехалі, як аказалася, тыя, якім не патрэбна дапамога ў аздараўленні, а толькі забавы.

Вырашэннем канфлікту заняліся работнікі магілёўскага падраздзялення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС рэспублікі. Як высветлілася, арганізацыяй гэтай паездкі займалася Магілёўская дабрачынная камерцыйная фірма ТАА "Валянціна", якую ўзначальвае Валянціна Якавенка. А прымаючым бокам з'яўляецца бельгійская асацыяцыя "Аперацыя — дзецям Чарнобыля". Згодна з існуючым паміж імі дагаворам, на аздараўленне павінны накіроўвацца дзеці з забруджанай зоны, мнагадзетных і малазабяспечаных сем'яў. Але гэты прынцып фарміравання груп не выконваўся. Як паведамілі карэспандэнту БелТА работнікі міліцыі, у спісы ўключаліся дзеці службовых асоб і з забяспечаных сем'яў. Дакументы падтасоўваліся. Валюта збіралася ўжо не першы раз і невядома па якім прызначэнні выкарыстоўвалася. Усё гэта цяпер высвятляе следства.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

Адкрытым тэкстам

# Дык хто разыгрывае польскую карту?

*Старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін накіраваў пісьмо вядомаму тэлежурналісту РТР, вядучаму тэлепраграмы "Зеркало" Мікалаю Сванідзе з нагоды выказванняў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, які быў запрошаны да ўдзелу ў перадачы 18 снежня 1998 года.*

Беларускі прэзідэнт перад мільёнамі гледачоў расказваў, як яму ўдалося дасягнуць поўнага паразумення з супольнасцямі, што здавён жывуць у краіне.

**— А хіба не так, пан Тадэвуш? Прыняты адпаведныя законы. Раз на два гады праводзяцца фестывалі нацыянальных культур, і якраз у Гродне. Нядаўна аблвыканкам зацвердзіў абласную праграму работы з нацыянальнымі супольнасцямі Гродзеншчыны на 1998—2000 гады...**

— Не буду гаварыць ад імя іншых меншасцяў, але за палякаў пастаю. Тое, што праводзяцца нацыянальныя фэсты, вельмі добра. Было б дзіўна, калі б яны не праводзіліся. Пра што тады мог бы казаць прэзідэнт? Аднак абмяжоўвацца фестывалямі і пры гэтым сцвярджаць аб поўным задавальненні патрэб тых жа, напрыклад, палякаў, значыць, уводзіць людзей у зман.

У рэспубліцы не адкрыта ніводнай польскай школы, пабудаванай на сродкі Беларусі. Тая, што ў Гродне, узведзена на грошы, сабраныя палякамі ва ўсім свеце. Менавіта пасля таго, як прэзідэнтам быў абраны Аляксандр Лукашэнка, дзяржава перастала выдаваць падручнікі на польскай мове для гэтай школы. Між іншым, у 1994 годзе быў распрацаваны план да 2000 года па выпуску польскамоўных падручнікаў. Графік строга выконваўся. Тагачасны беларускі ўрад на чале з Вячаславам Кебічам, Вярхоўны Савет паважна ставіліся да адраджэння ўсіх нацыянальных меншасцяў. Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Сямён Шарэцкі, лідэр апазіцыі Зянон Пазьняк неаднаразова звярталі ўвагу на нашы праблемы, раіліся, рэгулярна сустракаліся з намі. А цяпер падручнікі завозім з Польшчы і Літвы.

**— Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі прывялі наступныя лічбы: польская мова на Гродзеншчыне вывучаецца ў 154 школах 8116 вучнямі. 638 школьнікаў цалкам вывучаюць усе прадметы па-польску. Хіба не так?**

— Гэтымі лічбамі, відаць, і забяспечваюць прэзідэнта. Мы ж лічым, што на Беларусі груба парушаюцца нашы правы як нацыянальнай меншасці на навучанне дзяцей з польскіх сем'яў роднай мове. Зневажаецца Канстытуцыя, законы аб мовах, культуры і іншыя. У асноўным вучоба абмяжоўваецца факультатыўнымі заняткамі ў гуртках. На наш погляд, гэта дыскрымінацыя. Заняпад польскамоўнага навучання распачаўся пасля так званага рэферэндуму-96. Увядзенне ў краіне беларуска-рускага двухмоўя выцесніла нацыянальныя мовы, у прыватнасці польскую. Скажыце, чаму дзеці з польскіх сем'яў Гродзеншчыны павінны вывучаць у поўным аб'ёме рускую мову? На гэтых землях рускія, як і мы, — нацыянальная меншасць, якая колькасна (у два разы) саступае нам, палякам. Калі адзінай дзяржаўнай была беларуская мова, ніякіх праблем не ўзнікала.

**— А ці не перабольшваеце Вы, пан Тадэвуш?**

— Зноў звернемся да фактаў. Найбольш яскравая пазіцыя беларускай дзяржавы да нашых патрэб назіраецца на прыкладзе Навагрудка, радзімы вялікага паэта нашых народаў Адама Міцкевіча. Другі год старшыня райвыканкама Анатоль Ліс не дае дазволу на будаўніцтва ў горадзе школы з польскай мовай навучання. Нават за нашы грошы. Я разумею псіхалогію былога намесніка калгаснага старшыні, выпадкам лёсу прызначанага на ролю галоўнага "вертыкальшчыка" раёна.

Упэўнены, што мясцовы "вертыкальшчык" мае блаславенне абласнога выканаўчага камітэта. Напрыклад, ад Марыі Біруковай, намесніцы старшыні аблвыканкама. Яшчэ ў часы існавання КПСС—КПБ яна рабіла ўсё магчымае як сакратар абкама Кампартыі Беларусі па ідэалогіі, каб перашкодзіць стварэнню Саюза палякаў. Тую ж палітыку праводзіць і сёння.

Дарэчы, у тым жа Навагрудку два гады запар імкнуліся не дапусціць адкрыцця чарговых класаў з польскай мовай навучання. Хіба за такі "клопат" нам, палякам, спяваць прэзідэнту "Сто лят"?

**— У пісьме да тэлежурналіста Мікалая Сванідзе Вы падкрэслілі, што чатыры гады Аляксандр Лукашэнка не адказвае на пісьмовыя скаргі і просьбы кіраўніцтва Саюза палякаў.**

— У зацятым маўчанні прэзідэнта бачыцца ўся яго сутнасць. 15 жніўня 1996 года падчас сваёй сустрэчы з інтэлігенцыяй Гродна ў памяшканні драмтэатра Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў прыняць нас, палякаў, выслухаць і аказаць па магчымасці дапамогу. Але словы першай асобы дзяржавы аказаліся пустым гукам.

Пасля такіх адносін, па сутнасці — абраз, адчуваеш сябе другасортным і непаўнавартасным. А палякаў у краіне — звыш паўмільёна. Мы спраўна плацім падаткі, з'яўляемся грамадзянамі Беларусі і чакаем ад яе кіраўніцтва задавальнення нашых нацыянальных запатрабаванняў. Усё ў рамках законаў.

А хіба можа спрыяць узаемаразуменню парушэнне правоў чалавека, тых жа законаў, калі нам адмаўляюць нават у правядзенні пікетавання будынка аблвыканкама? Такім чынам мы хочам давесці да ведама грамадскасці скажэнні нацыянальнай палітыкі на Беларусі. Таму Саюз палякаў накіраваў шэраг скаргаў на адрас Кансультацыйнай назіральнай групы АБСЕ, якая працуе ў Мінску. Старшыня камісіі доктар Ханс Георг Вік адразу ж завітаў у Гродна, дзе атрымаў ад нас поўную інфармацыю.

Сучасная нацыянальная палітыка, якую праводзяць улады Беларусі, амаль не адрозніваецца ад той, БССРаўскай, камуністычнай, калі ўсе польскія школы былі зачынены і польская мова не выкладалася нават факультатыўна. Аднак іншага чакаць не трэба: былыя партработнікі сёння зноў верхаводзяць у "вертыкалі".

Разумныя і разважлівыя кіраўнікі, якія дбалі пра міжнацыянальную згоду, адхілены ад улады. Напрыклад, былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Домаш, намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Мілінкевіч і іншыя.

**Гутарыў**
**Антон ЛАБОВІЧ.**

*Гродна.*

